# Голас Радзімы

№ 7 (2045)
18 лютага 1988 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ (БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.





**Гэты здымак зроблены ў Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Генерал-лейтэнант Сяргей СЕРГІЕНКА сустрэўся з вучнямі адной з мінскіх школ. Ён расказвае моладзі аб барацьбе савецкага народа з іншаземнымі захопнікамі, стварэнні і шляху Савецкіх Узброеных Сіл, якія ў гэтыя дні адзначаюць сваё 70-годдзе.**

**[Матэрыял аб ветэране Савецкай Арміі Сяргею Сергіенку «Ёсць такая прафесія...» змешчаны на 4-й стар.].**

**Фота Ю. ЗАХАРАВА.**

# ЗАЯВА

# Генеральнага сакратара ЦК КПСС М. С. ГАРБАЧОВА па Афганістану

Ужо доўгі час працягваецца ваенны канфлікт у Афганістане. Гэта — адзін з самых цяжкіх і хваравітых рэгіянальных канфліктаў. Цяпер, мяркуючы па ўсім, стварыліся пэўныя перадумовы для яго палітычнага ўрэгулявання. У сувязі з гэтым савецкае кіраўніцтва лічыць неабходным выказаць свае меркаванні, да канца праясніць сваю пазіцыю.

У бліжэйшы час у Жэневе адбудзецца чарговы раунд перагавораў паміж Афганістанам і Пакістанам праз асабістага прадстаўніка генеральнага сакратара ААН. Гэты раунд мае значныя шанцы стаць заключным.

Да цяперашняга часу на перагаворах у Жэневе амаль завершана распрацоўка дакументаў, якія ахопліваюць усе бакі ўрэгулявання. У лік гэтых дакументаў уваходзяць афгана-пакістанскія пагадненні аб неўмяшанні ва ўнутраныя справы адзін аднаго і аб вяртанні афганскіх бежанцаў з Пакістана; міжнародныя гарантыі неўмяшання ва ўнутраныя справы Рэспублікі Афганістан; дакумент аб узаемасувязі ўсіх элементаў палітычнага ўрэгулявання. Ёсць дагаворанасць і аб стварэнні механізма кантролю.

Што ж застаецца зрабіць? Устанавіць прымальныя для ўсіх тэрміны вываду савецкіх войск з Афганістана. Іменна тэрміны, паколькі прынцыповае палітычнае рашэнне аб вывадзе савецкіх войск было прынята намі па дагаворанасці з афганскім кіраўніцтвам яшчэ некаторы час назад, аб чым тады ж было аб'яўлена.

У пытанні аб тэрмінах ёсць тэхнічны і палітычны бакі. Што датычыць тэхнічнага, то, відавочна, для фактычнага вываду войск патрабуецца пэўны час. Наўрад ці тут трэба ўваходзіць у дэталі.

Палітычны ж бок справы заключаецца ў тым, што вывад савецкіх войск, натуральна, звязаны з недапушчэннем умяшання ва ўнутраныя справы Афганістана. Цяпер перадумовы для вырашэння гэтага пытання створаны.

Імкнучыся садзейнічаць хуткаму і паспяховаму завяршэнню афгана-пакістанскіх перагавораў у Жэневе, урады СССР і Рэспублікі Афганістан дагаварыліся ўстанавіць канкрэтную дату пачатку вываду савецкіх войск — 15 мая 1988 года—і завяршыць іх вывад на працягу 10 месяцаў. Дата гэта ўстаноўлена зыходзячы з таго, што падпісанне пагадненняў аб урэгуляванні адбудзецца не пазней 15 сакавіка 1988 года і, адпаведна, усе яны ўступяць у сілу адначасова праз два месяцы. Калі падпісанне пагадненняў адбудзецца раней 15 сакавіка, адпаведна раней пачнецца і вывад войск.

У апошні час ставілася яшчэ і такое пытанне: ці нельга было б так размеркаваць вывад савецкіх войск па этапах, каб ужо на першым з іх вывесці параўнальна больш буйную частку савецкага кантынгенту. Што ж, і на гэта можна было б пайсці. Афганскае кіраўніцтва і мы згодны з гэтым.

Усё гэта стварае неабходныя ўмовы для таго, каб пагадненні аб урэгуляванні былі падпісаны ў самы блізкі час.

Гэта не азначае, вядома, што цяпер ніхто ўжо не можа заблакіраваць урэгуляванне, адкінуць перагаворы назад. Але не хацелася б думаць, што знойдуцца дзяржавы або палітычныя дзеячы, якія ўзялі б на сябе адказнасць перад народам Афганістана і іншымі народамі за зрыў урэгулява[illegible] Верым, што разважны [illegible] возьме верх.

Пытанне аб вывадзе нашых войск з Афганістана было пастаўлена яшчэ на XXVII з'ездзе КПСС.

У гэтым знай[illegible] сваё выражэнне наша цяперашняе палітычнае мысленне, наша новае, сучаснае бачанне свету. Гэтым мы хацелі пацвердзіць сваю вернасць традыцыі добрасуседства і добразычлівасці, узаемнай павагі, якія вядуць свой пачатак ад У. І. Леніна, ад першага Савецка-афганскага дагавора 1921 года. Перадавыя сілы афганскага грамадства зразумелі і прынялі наша шчырае імкненне да міру і спакою паміж нашымі суседнімі дзяржавамі, якія на працягу дзесяцігоддзяў паказвалі прыклад мірнага суіснавання і ўзаемавыгаднага раўнапраўнага супрацоўніцтва.

Усякі ўзброены канфлікт, у тым ліку і ўнутраны, здольны атруціць атмасферу ў цэлым раёне, ствараць абстаноўку неспакою і трывогі для суседзяў, не гаворачы ўжо аб пакутах і стратах народа самой гэтай краіны. Вось чаму мы выступаем супраць усякіх узброеных канфліктаў. Мы ведаем, што на такіх пазіцыях стаіць і афганскае кіраўніцтва.

Усё гэта, як вядома, прывяло афганскае кіраўніцтва на чале з прэзідэнтам Наджыбулой да глыбокага пераасэнсавання палітычнага курсу, які афарміўся ў патрыятычную і рэалістычную палітыку нацыянальнага прымірэння. Размова ідзе аб вельмі смелай і мужнай акцыі: не проста аб закліку спыніць узброеныя сутыкненні, але аб прапанове стварыць кааліцыйны ўрад, падзяліць уладу з апазіцыяй, у тым ліку з тымі, хто вядзе ўзброеную барацьбу супраць урада, і нават з тымі, хто, знаходзячыся за мяжой, кіруе дзеяннямі мяцежнікаў, забяспечвае іх зброяй і баявой тэхнікай, якая атрымліваецца ад замежных дзяржаў. І гэта прапанаваў урад, які надзелены канстытуцыйнымі паўнамоцтвамі і валодае рэальнай уладай у краіне.

Палітыка нацыянальнага прымірэння — гэта выражэнне новага палітычнага мыслення з афганскага боку. У ёй праяўляецца не слабасць, а сіла духу, мудрасць, годнасць свабодных, сумленных і адказных палітычных кіраўнікоў, заклапочаных цяперашнім і будучым сваёй краіны.

Поспехі палітыкі нацыянальнага прымірэння ўжо дазволілі пачаць адыход савецкіх войск з часці афганскай тэрыторыі. Цяпер у 13 афганскіх правінцыях няма савецкіх войск, таму што там спыніліся ваенныя сутыкненні. Цалкам можна сказаць так: чым хутчэй тэмп устанаўлення міру на афганскай зямлі, тым прасцей будзе вывесці савецкія войскі.

Палітыка нацыянальнага прымірэння дала палітычную платформу для ўсіх, хто хоча міру ў Афганістане. Якога міру? Такога, якога пажадае афганскі народ. Горды, свабодалюбівы, храбры афганскі народ, які прайшоў шматвяковую гісторыю барацьбы за сваю свабоду і незалежнасць, быў, ёсць і будзе гаспадаром сваёй краіны, заснаванай, як сказаў прэзідэнт Наджыбула, на многапартыйнасці ў палітычнай галіне і многаўкладнасці — у эканамічнай.

Самі афганцы вызначаць і канчатковы статус сваёй краіны сярод іншых дзяржаў. Часцей за ўсё гавораць аб тым, што будучы мірны Афганістан будзе незалежнай, недалучанай, нейтральнай дзяржавай. Што ж, мы будзем толькі рады мець такога суседа на нашых паўднёвых граніцах.

У сувязі з пытаннем аб пачатку вываду савецкіх войск ёсць неабходнасць растлумачыць нашу пазіцыю яшчэ па аднаму аспекту: ці звязаны вывад з завяршэннем намаганняў па стварэнню ў Афганістане новага, кааліцыйнага ўрада, г. зн. з давядзеннем палітыкі нацыянальнага прымірэння да канца. Паводле нашага пераканання, не звязаны.

Адна справа — вывад савецкіх войск у спалучэнні з іншымі бакамі ўрэгулявання, уключаючы гарантыі неўмяшання. У гэтым удзельнічаюць розныя дзяржавы. Дарэчы, як нам уяўляецца, не павінен бы знаходзіцца ў баку ад палітычнага ўрэгулявання і суседні Іран.

Іншая справа — нацыянальнае прымірэнне і стварэнне кааліцыйнага ўрада. Гэта чыста ўнутранае афганскае пытанне. Яго могуць вырашаць толькі самі афганцы, няхай і належаць яны да розных, нават процістаячых адзін аднаму лагераў. Калі ж нам намякаюць, што Савецкі Саюз, маўляў, павінен прыняць удзел у адпаведных перагаворах, ды яшчэ і з трэцімі [illegible]ржавамі, мы адказваем [illegible]рда і ясна: прабачце, гэта [illegible] наша справа. Ды і не ваша.

А ці не разгарацца яшчэ больш ваенныя сутыкненні пасля вываду савецкіх войск? Пра[illegible]вамі займацца наўрад ці т[illegible], але думаю, што такое развіццё падзей можна прадухіліць, калі тыя, хто цяпер ваюе супраць сваіх сабратаў, зоймуць адказную пазіцыю і паспрабуюць на справе ўключацца ў мірнае будаўніцтва. Калі ж яны будуць кіравацца не довадамі розуму, а эмоцыямі, памножанымі на фанатызм, ім прыйдзецца сутыкнуцца са значна ўзрослай воляй афганскага народа да прымірэння ў краіне і з абавязацельствамі дзяржаў не ўмешвацца больш у яе ўнутраныя справы. Жэнеўскія абавязацельствы закрыюць шляхі для аказання звонку дапамогі тым, хто разлічвае ўзброенай сілай навязаць сваю волю ўсяму народу.

Калі ж узнікне неабходнасць, можна будзе на гэтым этапе падумаць аб тым, каб выкарыстаць магчымасці Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, Савета Бяспекі.

Цяпер аб нашых хлопцах, аб нашых воінах у Афганістане. Яны сумленна выконвалі і выконваюць свой абавязак, праяўляючы пры гэтым самаадданасць і гераізм.

Наш народ глыбока паважае тых, каму давялося несці воінскую службу ў Афганістане. Дзяржава забяспечвае ім першачарговую магчымасць атрымаць добрую адукацыю, цікавую дастойную работу.

Памяць аб тых, хто загінуў у Афганістане смерцю храбрых, для нас свяшчэнная. Партыйныя, савецкія органы абавязаны клапаціцца аб тым, каб сем'і загінуўшых, іх родныя і блізкія былі акружаны клопатамі, увагай, добразычлівасцю.

І апошняе. Калі будзе развязаны афганскі вузел, гэта зробіць самы глыбокі ўплыў і на іншыя рэгіянальныя канфлікты.

Калі гонка ўзбраенняў, якую мы так настойліва імкнёмся спыніць і сяго-таго ўжо дабіліся, — гэта вар'яцкі бег чалавецтва да бездані, то рэгіянальныя канфлікты — гэта кроватачывыя раны, здольныя парадзіць ачагі гангрэны на целе чалавецтва.

Зямля літаральна ахоплена такімі небяспечнымі ачагамі. Кожны з іх — гэта боль не толькі народаў, непасрэдна ў яго ўцягнутых, гэта боль усіх, няхай гэта будзе ў Афганістане, на Блізкім Усходзе, у сувязі з вайной Ірака і Ірана, у Паўднёвай Афрыцы, у Кампучыі, Цэнтральнай Амерыцы.

Хто выйграе ад гэтых канфліктаў? Ніхто, акрамя гандляроў зброяй, розных рэакцыйных, экспансіяніcцкіх колаў, якія прывыклі грэць рукі і нажывацца на няшчасцях і бедах народных.

Давядзенне да канца справы палітычнага ўрэгулявання ў Афганістане будзе важным прарывам у ланцугу рэгіянальных канфліктаў.

Як за дагаворанасцю аб ліквідацыі РСД і РМД выстройваецца чарга далейшых буйных крокаў у галіне раззбраення, аб якіх ідуць або намячаюцца перагаворы, так і за палітычным урэгуляваннем у Афганістане ўжо маячыць пытанне: а які канфлікт будзе пераадолены наступным? І наступныя абавязкова будуць.

У дзяржаў і народаў дастатковы патэнцыял адказнасці, палітычнай волі і рашучасці для таго, каб пакончыць з усімі рэгіянальнымі канфліктамі за некалькі гадоў. Дзеля гэтага варта працаваць. Савецкі Саюз сваіх намаганняў у гэтай важнейшай справе не пашкадуе.



Самае буйное ў рэспубліцы радовішча будаўнічага каменю знаходзіцца ля пасёлка Мікашэвічы, што на Брэстчыне. Разведаныя запасы яго — граніты, гранадыярыты, апліты і іншыя карысныя выкапні — складаюць 293,6 мільёна тон. Яны выкарыстоўваюцца як друз для бетону, у дарожным будаўніцтве і як бутавы камень. З года ў год растуць магутнасці аб'яднання «Граніт» — галоўнага распрацоўшчыка радовішча. Нядаўна прадпрыемствам уведзены ў лік дзеючых другі пускавы комплекс. Ён будзе даваць штогод звыш сямі мільёнаў кубаметраў гранітнага друзу. Комплекс прадстаўляе сабой высокааўтаматызаванае прадпрыемства з выкарыстаннем прамысловага тэлебачання, сучаснага тэхналагічнага абсталявання.
НА ЗДЫМКАХ: пульт кіравання драбільна-сартавальнага завода. Злева направа — начальнікі змен А. СТРАМАУС і П. ШЭЎЧЫК, аператар Н. КЕДЫШ; у кар'еры вытворчага аб'яднання «Граніт» прыйшла новая тэхніка — магутныя васьмікубовыя экскаватары.

Фота В. АЛЯШКЕВІЧА.



## ВЫБАРЫ КІРАЎНІКА—ПРЫКМЕТА ЧАСУ

# ГАЛАСУЕМ ЗА «ЗРУЧНАГА»?

З 1 студзеня 1988 года ў СССР уступіў у сілу новы Закон аб вытворчым прадпрыемстве (аб'яднанні), які прадугледжвае, у прыватнасці, выбарнасць кіраўнікоў вытворчасці знізу даверху.

Зрэшты, у некаторых рэспубліках, напрыклад у Беларусі, такія выбары ўжо ўвайшлі ў практыку. А год назад на першым часе ў мяне, помню, адбылася нарэшце цікавая размова з рабочымі Мінскага гадзіннікавага завода. Меркаванні выказваліся розныя, але ў асноўным людзі сумняваліся, што змогуць сапраўды выбіраць сабе начальнікаў: усё роўна, маўляў, з міністэрства кандыдатаў прапануюць. Не верылі і ў самі сябе: ці наша справа вырашаць, каму быць кіраўніком вытворчасці? Гальваніст Галіна Парчынская, напрыклад, разважала так:

— Сярод многіх якасцей у кіраўніка павінна быць строгасць, патрабавальнасць. Дык вось, каб не ўскладняць сабе жыццё, ці не аддадуць людзі перавагу чалавеку «зручнаму», не надта патрабавальнаму?

Што ж, ёсць прыклады, якія пацвярджаюць такую апаску. І ўсё ж...

— І ўсё ж працоўныя калектывы часцей за ўсё бываюць прынцыповыя,— лічыць галоўны інжынер Салігорскага рамонтна-механічнага завода Рыгор Татур, які пераканаўся ў гэтым на ўласным вопыце.— Калі з некалькіх кандыдатаў рабочыя выбралі дырэктарам не мяне, а майго намесніка Валерыя Краўца, не ўтаю, самалюбства было закранута. Але пазней зразумеў: праграма, прапанаваная Краўцом, сапраўды больш канструктыўная...

Зрэшты, праграмы, выказаныя і тым, і другім, у многім былі падобныя — магчыма таму, што і Татур, і Кравец даўно працуюць на заводзе, добра ведаюць усе «вузкія» месцы. Але перспектывы, якія маляваў Татур, здаваліся, прыцягваюць рабочых больш. Яны апладзіравалі, калі гутарка ішла аб прапанаваным ім расшырэнні будаўніцтва жылля, аб удасканаленні работы дзіцячых садоў, арганізацыі быту і адпачынку. А прагаласавала большасць за... Валерыя Краўца, які асноўную ўвагу прапанаваў удзяліць тэхнічнаму пераўзбраенню прадпрыемства, укараненню новых тэхналогій, пошуку больш дасканалых форм кіравання і арганізацыі працы.

— Я адразу вырашыў, што дырэктарам павінен стаць менавіта Кравец,— гаворыць фрэзероўшчык Уладзімір Чакур.— Таму што ён прапанаваў праграму, можа, не такую эфектную, але надзейную і моцную, на падставе якой мы зможам вырашыць не толькі вытворчыя, але і ўсе нашы сацыяльныя праблемы. Няхай не адразу, не сёння, але затое — усе.

Быў і яшчэ адзін плюс на карысць Краўца: ён на 11 год маладзейшы за Татура.

— Упэўнены: людзі здольныя правільна ацаніць дзелавыя і чалавечыя якасці свайго кіраўніка,— лічыць і дырэктар Беларускага навукова-даследчага інстытута неўралогіі, нейрахірургіі і фізіятэрапіі Ігнацій Антонаў.— Калі б практыка выбараў існавала даўно, у нашай навуцы не было б столькі бяздзейных і інертных адміністратараў. Дэмакратызацыя ў вырашэнні кадравых пытанняў сёння звышактуальная, працэс гэты хоць і складаны, але неабходны.

Ну а рабочыя Мінскага гадзіннікавага завода — што яны думаюць пра выбары кіраўніка цяпер? У гэтым калектыве, аказваецца, за год многае перамянілася: прыйшлі новыя дырэктар, галоўны інжынер, галоўны канструктар, начальнікі шэрагу цэхаў і ўчасткаў.

Што ж тычыцца самой Галіны Парчынскай, то яна цяпер брыгадзір. Характар у яе адкрыты, шчыры, да дысцыпліны і якасці работы патрабавальная. Карацей кажучы, чалавек «нязручны». Тым не менш брыгадзірам выбралі менавіта яе. Аднагалосна.

**Н. АНАТОЛЬЕВА.**

## ФОТА З АРХІВА

**Паважаныя чытачы! Перад вамі тры фотаздымкі, узятыя з фондаў рэспубліканскага архіва кінафотадакументаў. Яны пачатак новай рубрыкі «Голасу Радзімы» — «Фота з архіва», прымеркаванай да 70-годдзя Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, утворанай 1 студзеня 1919 года. Здымкі, якія мы будзем змяшчаць, нагадаюць паслякастрычніцкі шлях Беларусі, на якім усяго хапіла: і гора, і радасці ўдосталь. Вы ўбачыце тых людзей, якія змагаліся за новае жыццё, і тых, хто будаваў яго, убачыце вуліцы беларускіх гарадоў і паселішчаў, якія, магчыма, старэйшым з чытачоў здадуцца знаёмымі, ускалыхнуць памяць пра мінулае, пра юнацтва і маладосць. Маладзейшыя ж, калі наведаюць Радзіму сваіх бацькоў, а можа нават ужо і дзядоў, змогуць больш яскрава ўявіць, як няпроста было пабудаваць усё тое, што мы маем цяпер, якіх велізарных намаганняў каштаваў Беларусі сённяшні дзень.**

**...Самы пачатак дваццатага стагоддзя, Кобрын. На здымку цэнтральная — Рынача плошча. Разбітая коламі, брудная, пыльная. Яна нібы ўвасабленне «долі-шчасця», наканаванай Беларусі царскім урадам: ускраіна імперыі павінна быць беднай правінцыяй. Але абуджэнне пачалося ўжо, хаця давалася яно вельмі няпроста. Царызм жорстка душыў усе праявы нацыянальнай самасвядомасці, спробы скінуць ярмо прыгнятальніцтва. Аднак бурны рэвалюцыйны працэс нельга было спыніць. Адной з першых яго праяў на Беларусі стала ўзмацненне і пашырэнне роднага беларускага слова. Ад імя непісьменнага, забітага, аднак няскоранага народа загаварылі Багдановіч, Цётка... Менавіта тады, у першае дзесяцігоддзе новага веку, загучаў голас змучанага беларускага мужыка ў вершах Янкі Купалы. І далёка было пачута знакамітае:**

**А чаго ж, чаго**
**захацелась ім,**
**Пагарджаным век,**
**ім глухім, сляпым!**
**—Людзьмі звацца.**

**Угледзьцеся яшчэ ў адзін здымак з нашай падборкі—вялікі групавы партрэт. Вось яны, сапраўдныя гаспадары роднага краю, якія адчулі сваю годнасць і сваю ўладу. Яны сабраліся на Усерасійскі з'езд Саветаў сялянскіх дэпутатаў, каб вырашыць свой лёс і лёс сваіх дзяцей. Яны ўжо сталі на шлях свабоднага жыцця, і з тых часоў беларускі народ, нягледзячы ні на што, не збочваў з яго.**

**Галіна УЛІЦЁНАК.**








**НА ЗДЫМКАХ: Янка КУПАЛА ў час супрацоўніцтва ў «Нашай ніве» (фотаздымак зроблены да 1915 года); Рыначная плошча ў Кобрыне. 1902 год; дэлегаты ад Паўночна-Заходняй вобласці на Першым Усерасійскім з'ездзе Саветаў сялянскіх дэпутатаў. Петраград, май 1917 года.**

## БРЭСЦКІЯ СУВЕНІРЫ Ў АМЕРЫЦЫ

«Руская матрошка спустошыла кішэню амерыканскага бізнесмена»,—так пажартаваў над уласнай фатаграфіяй кіраўнік амерыканскай гандлёвай фірмы «Шэлмар імпартс лімітэд» Шэлі Зігер з горада Трэнтана. На здымку, які ён падарыў кіраўніцтву Брэсцкай фабрыкі сувеніраў, Шэлі адлюстраваны з дзвюма сімпатычнымі матрошкамі ў руках і вывернутымі кішэнямі. Вясёлая фатаграфія зусім сур'ёзна паказвае ўзровень дзелавога супрацоўніцтва паміж двума прадпрыемствамі. Летась фірма набыла брэсцкіх сувеніраў на 200 тысяч рублёў. А сёлета сума ўзрасла ўдвая. На гэты раз у час свайго візіту ў Брэст Шэлі адабраў дзевяноста ўзораў, сярод якіх фігуркі персанажаў рускіх і беларускіх казак, матрошкі, звяры і птушкі, арыгінальныя вырабы з саломкі.

Фірма атрымала выключнае права продажу брэсцкіх сувеніраў у ЗША. Партнёры дамовіліся стварыць праект будаўніцтва ў нашай краіне сумеснага прадпрыемства. І хоць Шэлі Зігер, пазіруючы фатографу, вывернуў свае кішэні, ён усё ж упэўнены, што яго чакае прыбытак ад продажу беларускіх сувеніраў. Аб якасці гэтай прадукцыі сведчыць вялікі экспарт—яе купляюць 12 краін свету.

**І. КУКСА.**

## У СКАРБОНКУ МІРУ

Бескарыслівы ўчынак зрабіла Ніна Цвёрдая — пенсіянерка з вёскі Станіслава на Дубровеншчыне. На яе працоўнай ашчаднай кніжцы сабралася дзве з палавінай тысячы рублёў, з'эканомленых на працягу гадоў. І восьамаль усю суму Ніна Ягораўна добраахвотна пералічыла ў Савецкі фонд міру.

Якія ж матывы яе ўчынку? Быццам і грошы ў жанчыны не такія ўжо вялікія, каб «раскідвацца» тысячамі. Паслухаем яе ўласнае тлумачэнне. «Мне ўжо 57 гадоў. Дзяржава штомесяц выплачвае пенсію. На ежу і гаспадарчыя расходы хапае. Але ніякія грошы не спатрэбяцца, калі не будзе на зямлі міру! Дык няхай яны пойдуць на добрую справу...»

Вось такая жыццёвая пазіцыя простай вясковай жанчыны. Ніна Цвёрдая з дзесяці гадоў расла сіратой. Зведала ў жыцці ўсякага. Але галоўнае — працавала яго сумленна. У мясцовым саўгасе «1 Мая» доўгі час працавала ў паляводстве, а потым свінаркай. За добрасумленнасць адзначана ўрадавай узнагародай — ордэнам «Знак Пашаны».

Цяпер Ніна Ягораўна на заслужаным адпачынку. Пра яе ўжо не пішуць у газетах, як некалі. Але яна і не імкнецца да славы. Хапіла ёй у жыцці і цяжкасцей, і пашаны. Зрабіўшы буйны ўзнос у скарбонку міру, Н. Цвёрдая як бы сцвярджае права на шчаслівае мірнае жыццё ўсіх людзей на планеце ў наш неспакойны час.

**В. ФЕДАРАЎ.**

## *У ЯГО БІЯГРАФІІ—*

## *ГІСТОРЫЯ САВЕЦКІХ УЗБРОЕНЫХ СІЛ*

# ЁСЦЬ ТАКАЯ ПРАФЕСІЯ...

**Гутару з Сяргеем Сергіенкам, а сам успамінаю папулярны фільм «Афіцэры». Аднаму з герояў гэтай кінакарціны належаць словы: «Ёсць такая прафесія — абараняць Радзіму».**

**Сказана нібыта пра майго субяседніка Сяргея Сергіенку, які многія гады служыў у Савецкай Арміі. Слухаю яго расказ, і быццам разам з ім гартаю старонкі гісторыі стварэння і развіцця Савецкіх Узброеных Сіл, якія адзначаюць сёлета свой 70-гадовы юбілей. Менавіта такія, як Сяргей Сергіенка, выхадцы з народа, на першым часе і складалі іх аснову, праходзілі шлях ад нявопытных навічкоў-чырвонаармейцаў, рамантыкаў рэвалюцыі, да таленавітых камандзіраў, буйных ваенных спецыялістаў.**

...Камандзір аднаго з кавалерыйскіх падраздзяленняў дывізіі Чырвонага казацтва праводзіў заняткі. Выклікаў са строю нядаўна прыбыўшага ў часць інструктара палітаддзела Сяргея Сергіенку.

— Ну, данец-маладзец, пакажы навічкам, як трэба сячы лазу.

Сяргей ускочыў у сядло і ліха паімчаўся на «ворага». Узмахнуў шабляй, і... на зямлю ўпала амаль паўвуха Арзамаса.

Невядома, хто больш сканфузіўся — камандзір ці інструктар. Дансві казак, і так спудлаваў. А тлумачэнне тут простае: хоць і нарадзіўся Сяргей Сямёнавіч на Доне, але ліхім казаком-рубакам станавіцца не збіраўся.

З трынаццаці гадоў пайшоў працаваць у Глыбоцкае дэпо, што пад Растовам, вучнем слесара. Асвоіў спецыяльнасць. Перавялі ў слесары. Работа на той час была прэстыжнай: шаброўка залатнікоў падшыпнікаў паравоза — не кожнаму і давалася. І капейку можна было нядрэнную зарабіць. Вось толькі працаваць даводзілася да сёмага поту. Работа забірала ўсе сілы. Можа і здароўе страціў бы рана, каб не рэвалюцыя.

Без ваганняў стаў ён на бок бальшавікоў. Бо, як кажа Сергіенка: «Бальшавікі былі за заканчэнне першай сусветнай вайны, што забрала шмат чалавечых жыццяў, знясіліла, давяла да голаду народ. І яшчэ бальшавікі далі зямлю сялянам, а нам, рабочым, — фабрыкі і заводы».

Але рэвалюцыю трэба было абараняць. І тады маладая Савецкая рэспубліка пачала ствараць армію. Якой яна была ў тыя першыя гады?

— Гляджу я сёння на нашых салдат: усе хлопцы як на падбор — моцныя, спраўныя, прыгожа і добра форма на іх сядзіць. Ну хоць кожнага вядзі адразу на парад. Не тое, што раней: не хапала абмундзіравання, тужэй зацягвалі рамяні: бракавала салдацкага харчу. А вазьміце ўзбраенне... Прыйшлі першыя танкі — смех ды й годзе! Паўзе, як чарапаха, пяць кіламетраў у гадзіну. Ці спыніцца ў полі — не завесці.

Але нават і гэта армія была непераможнай. Бо мела высокі маральны дух. Мы ведалі, што абаранялі, — народную ўладу, заваёвы Кастрычніка. І не шкадавалі сваіх жыццяў у баях з ворагам.

Успомнім Аляксандра Матросава. Аб яго подзвігу ў Вялікую Айчынную вайну сёння ведае ўвесь свет. Здзейсніў ён яго літаральна на маіх вачах, калі закрыў сваім целам амбразуру дота ля вёскі Чарнушкі пад Вялікімі Лукамі.

Пазней я сустракаўся з іншаземцамі. Яны здзіўлена пыталіся: «Навошта так зрабіў Матросаў? Чаму не пачакаў, пакуль пададуць танкі і знішчаць дот?» Не, ніколі не зразумець ім нашага патрыятызму. Аддаў сваё жыццё Аляксандр Матросаў свядома, каб захаваць жыцці сваім таварышам, каб наблізіць дзень перамогі над лютым ворагам — фашызмам.

...Падыходзіла да канца грамадзянская вайна. Маладой Краіне Саветаў не хапала партыйных кадраў. Данецкі губком камандзіраваў камсамольца Сергіенку ў Маскву ў школу партыйных работнікаў. Пасля кароткіх курсаў — новае накіраванне: у Ленінградскі інстытут чырвоных камандзіраў, які пасля быў рэарганізаваны ў Ваенна-палітычную акадэмію імя У. І. Леніна.

Так пачалася ваенная кар'ера Сяргея Сергіенкі.

Расказвае Сяргей Сямёнавіч пра тыя гады і абавязкова ўзгадае сваю сустрэчу з Уладзімірам Ільічом Леніным.

— У гады рэвалюцыі, — кажа мой субяседнік, — я многіх прамоўцаў слухаў. Гаварылі яны прыгожа. Здаралася, заслухаешся [illegible]зат. Але скончаць прамо[illegible] выйдзеш на вуліцу і раптам адчуеш, што ад той гутаркі нічога не засталося ў памяці — пусты звон, не больш.

А вось выступ[illegible]ерад намі, моладдзю, Ул[illegible]імір Ільіч. Адзін невялічкі лісток паперы трымаў. Ды і ў той ён, здаецца, не заглядваў. Усё па памяці гаварыў. Аб чым казаў Ленін? Аб будучыні, аб задачах моладзі, завяшчаў берагчы нашу краіну ад ворагаў. Кожнае слова біла прама ў сэрца, пераконвала.

Забягаючы наперад, скажу, што Сяргею Сямёнавічу лёс наканаваў сустрэцца яшчэ з многімі выдатнымі людзьмі. У яго памяці гутаркі з Фрунзе, Калініным, Жукавым, Блюхерам...

— Пасля таго выпадку з Арзамасам, напэўна, адразу ў танкавыя часці папрасіліся? — зрабіў я здагадку, ведаючы, што большую частку службы, да выхаду ў адстаўку, Сергіенка быў танкістам.

— Не зусім так. Спачатку навучыўся лазу сячы, — смяецца Сяргей Сямёнавіч. — А стаў я танкістам таму, што кавалерыя сваё аджывала. Усе замежныя арміі, асабліва нямецкая, узялі на ўзбраенне бронемашыны, танкі. Засталася толькі шкадаваць што Чырвоная Армія не паспела поўнасцю падрыхтавацца да пачатку другой сусветнай вайны. У 1939 годзе на ўзбраенне нашай арміі сталі паступаць танкі «Т-34» і «КВ». Гэта была тэхніка! Але мала было яе ў той час.

Прасочваеш армейскую кар'еру Сяргея Сергіенкі, і ствараецца ўяўленне, быццам служба ў яго ішла лёгка. Параўнальна хутка атрымліваў званні, высокія назначэнні. Але толькі аднаму яму вядома, чаго гэта каштавала.

Менавіта ў другую сусветную вайну і праявіліся вялікія камандзірскія здольнасці Сяргея Сергіенкі. Ён прымаў актыўны ўдзел у распрацоўцы Ржэўска-Вяземскай аперацыі — у разгроме фашысцкіх войск пад Масквой, дзе ўмела кіраваў танкавай брыгадай.

— За тую аперацыю мяне «прыкамандзіравалі» да міністра замежных спраў Вялікабрытаніі Ідэна, — успамінае Сергіенка. — Чэрчыль спецыяльна накіраваў міністра ў Расію, каб той, як кажуць, уласнымі вачамі ўбачыў, што гітлераўцы пацярпелі паражэнне пад сталіцай нашай Радзімы.

Вазіў я Ідэна і ў Клін, і ў Мажайск, і ў Істру. Бачу: з недаверам на ўсё глядзіць міністр. Гэта і зразумела: фашысты без вялікіх намаганняў захапілі амаль усю Еўропу, а тут знайшлася такая армія, што нанесла цяжкае паражэнне ім.

Дзе ні бываў Ідэн — дзесяткі знішчаных фашысцкіх танкаў, аўтамашын... Па дарогах рухаюцца тысячы ваеннапалонных. Прыйшлося міністру тэрмінова даваць тэлеграму Чэрчылю, што гітлераўская армія сапраўды пацярпела першае буйное паражэнне.

Пасля былі бai на Волзе, пад Кіевам, было вызваленне Беларусі, Прыбалтыкі, Польшчы. І не парадным маршам рухаліся танкавыя часці, якімі камандаваў Сергіенка. Усюды патрэбна было прымаць адзіна правільныя рашэнні, праяўляць кемлівасць, каб перахітрыць ворага, каб дамагчыся перамогі з найменшымі ахвярамі. Даводзілася прыстасоўвацца і да абставін, і да мясцовасці... У Прыбалтыцы, напрыклад, шмат забалочаных нізін. Запомніўся рэйд на горад Таненберг, дзе знаходзіўся моцны гарнізон. Перашкаджаў супрацьтанкавы роў. Не было калі чакаць сапёраў — прападзе эфект маланкавай атакі. І тады Сяргей Сямёнавіч дае каманду загнаць два танкі ў роў і па іх пераправіцца іншым машынам.

Разлік на нечаканасць поўнасцю апраўдаў сябе. Фашысты амаль не аказалі супраціўлення. Дзякуючы смелай атацы танкаў Сергіенкі, удалося таксама выратаваць 86 тысяч вязняў канцэнтрацыйнага лагера.

Такіх эпізодаў у гады вайны было нямала. Высокімі ўрадавымі ўзнагародамі адзначаны баявы шлях камандзіра танкавага батальёна, намесніка камандзіра дывізіі, камандзіра корпуса — Сяргея Сергіенкі, выхадца з народа. Скончыў службу ў чыне генерал-лейтэнанта. Зараз жыве ў Мінску. Бо з Беларуссю ў яго звязаны доўгія гады службы, падкупіла гасціннасць беларускага народа. Тут, кажа ветэран вайны, ён адчувае сябе як дома.

Сяргею Сергіенку зараз восемдзесят восемь год. Але, нягледзячы на такі паважны ўзрост, амаль кожны дзень прыходзіць і ў музей Вялікай Айчыннай вайны, і на сустрэчы з моладдзю ў школы, клубы, на прадпрыемствы, расказвае аб Савецкай Арміі, мужнасці воінаў, вядзе вялікую патрыятычную работу.

**Яўген ТУРАЙКЕВІЧ.**



Зімовы лес. Фота Я. КАЗЮЛІ.

## ПЕРШЫЯ КРОКІ ДЗІЦЯЧАГА ФОНДУ

# РАЗАВАЙ МІЛАСЭРНАСЦІ НЕ МОЖА БЫЦЬ

Сярод разнастайных задач Савецкага дзіцячага фонду імя У. І. Леніна (самадзейная грамадская арганізацыя, якая ўзнікла нядаўна ў СССР) адна з першачарговых заключаецца, як сказана ў Статуце фонду, у аказанні «асобай дапамогі дзецям-сіротам, дзецям, якія засталіся без апекі бацькоў».

Я гутарыла аб гэтым у Мінску з вельмі зацікаўленымі людзьмі [illegible] персаналам школы-інтэрната № 4.

— Усё неабходнае ў нашых дзяцей ёсць, — гаварыў мне дырэктар Міхаіл Гірыловіч. — І клопат дзяржавы аб іх становіцца ўсё большым. Напрыклад, з лета 1987 года амаль удвая ўзраслі сродкі на харчаванне, павялічаны таксама сродкі на набыццё адзення і абутку. Выхаванцам выдзяляюцца кішэнныя грошы, яны бясплатна карыстаюцца гарадскім транспартам. Словам, усе мы імкнёмся зрабіць так, каб гэтыя дзеці, пакрыўджаныя лёсам, не зведалі маральных і матэрыяльных нягод, каб яны атрымалі добрае выхаванне, адукацыю, падрыхтоўку да будучага дарослага жыцця — гэта наш прафесійны і чалавечы абавязак. І ўсё ж...

— У нашай школе-інтэрнаце, як і ў іншых такіх установах, — расказвае ўрач-псіханеўролаг Святлана Крышавец, — ёсць дзеці з затрымкай псіхічнага развіцця. Гэта тлумачыцца ў некаторай ступені недастатковай увагай да малышоў нянек, выхавальніц, у якіх на руках 25—30 малых. Яны проста не паспяваюць пагаварыць з дзецьмі, прылашчыць іх — паспець бы памыць ды накарміць. Дзіцячы фонд адразу ж улавіў гэтыя слабыя месцы, выдзеліў свае сродкі на павелічэнне штата выхавальнікаў у дамах дзіцяці. Змяншаецца колькасць малышоў у групах, паляпшаецца догляд іх.

— Нядаўна я даведалася, што ў падарунак дзіцячым дамам і інтэрнатам Дзіцячым фондам накіраваны аўтобусы і грузавікі, — зазначае выхавальніца Ірына Беразуцкая. — Гэта для дзяцей вялікая радасць: «свая» машына — гэта паездкі ў заапарк, у кіно, за горад, экскурсіі ў іншыя гарады... Я б усё-такі спачатку накіравала як мага больш сродкаў на будаўніцтва адзіных вучэбна-выхаваўчых комплексаў. Бо як цяпер? Спачатку немаўля жыве ў доме дзіцяці, з трох год — у дзіцячым доме, затым — у васьмігадовай школе-інтэрнаце, і, нарэшце, яго пераводзяць альбо ў сярэднюю школу-інтэрнат, альбо ў прафесійна-тэхнічнае вучылішча. Вось праз колькі рук праходзіць маленькі чалавек, нярэдка са складаным характарам, які многа перажыў, колькі разоў яму даводзіцца мяняць уклад жыцця, прывычкі і прыхільнасці. Стварэнне адзінага комплексу, дзе дзіця будзе жыць пастаянна, не пераязджаючы з месца на месца, па-мойму, задача нумар адзін.

Я вітаю ініцыятыву Дзіцячага фонду, які прапанаваў сваю канцэпцыю вядомых у сусветнай практыцы дзіцячых дамоў сямейнага тыпу. Яна разглядаецца цяпер на ўрадавым узроўні.

Разавай міласэрнасці не можа быць, гаварылі педагогі мінскай школы-інтэрната. Такая магутная грамадская арганізацыя, як Дзіцячы фонд, заклікана трымаць у полі зроку і лёс маладога чалавека, які ўжо пакінуў дзіцячы дом, яго першыя самастойныя крокі ў жыцці павінны атрымліваць маральную і матэрыяльную падтрымку. Гаварылася, у прыватнасці, аб неабходнасці забяспечыць сацыяльную справядлівасць і ў тым, што тычыцца атрымання вышэйшай адукацыі. Пакуль што яе атрымліваюць толькі нямногія былыя дзетдомаўцы...

Калі коратка сфармуляваць задачу Савецкага дзіцячага фонду, то, паводле слоў яго старшыні — пісьменніка Альберта Ліханава, ён павінен стаць хуткай сацыяльнай і маральнай дапамогай дзецям, якія засталіся без бацькоў, не абысці ўвагай ні адзін дзіцячы лёс. Асвятляць дзейнасць фонду будзе яго выданне — штотыднёвая газета «Сям'я», першыя нумары якой выйшлі ў студзені сёлетняга года.

**Наталля БУЛДЫК.**
**(АДН.)**

*СТАЛИНГРАДСКАЯ БИТВА И ПАРТИЗАНСКОЕ ДВИЖЕНИЕ В БЕЛОРУССИИ*

# НА ПОМОЩЬ КРАСНОЙ АРМИИ

Битва под Сталинградом, завершившаяся 45 лет назад разгромом окруженной там большой группировки немецко-фашистских войск, положила начало коренному перелому в ходе Великой Отечественной войны. Она оказала определяющее влияние на дальнейшее течение всей мировой войны. За время этой гигантской битвы, длившейся с 17 июля 1942 года по 2 февраля 1943, армии фашистского блока потеряли около четверти своих сил, действовавших на советско-германском фронте. Общие потери врага убитыми, ранеными, пленными и пропавшими без вести составили около 1,5 миллиона солдат и офицеров. Стратегическая обстановка изменилась в пользу Советских Вооруженных Сил. Контрнаступление под Сталинградом переросло в общее стратегическое наступление Красной Армии, приступившей к массовому изгнанию врага из пределов Советского Союза.

Вспоминая сегодня о Сталинградской битве, мы говорим, что она явилась великим подвигом миллионов советских людей, сражавшихся на фронте, героическим трудом ковавших победу в советском тылу. Но мы не забываем и тех, кто на временно оккупированной территории не покорился врагу, а боролся с ним днем и ночью, помогая тем самым фронту. Поэтому мы не зря связываем Сталинградскую битву и партизанскую войну в Белоруссии. К этому времени партизанская борьба стала массовой, был приобретен уже значительный боевой опыт. К июлю 1942 года партизанские силы в Белоруссии насчитывали 28 тысяч бойцов.

Ряды народных мстителей пополнялись с каждым днем. Если в первом полугодии 1942 года в отряды ежемесячно вступало в среднем 3—4 тысячи человек, то во втором — 7—8 тысяч. Ко времени контрнаступления советских войск под Сталинградом в Белоруссии насчитывалось 430 партизанских отрядов, объединивших для вооруженной борьбы около 50 тысяч советских патриотов. Невооруженный резерв составлял около 30 тысяч человек.

В середине 1942 года были созданы Центральный и Белорусский штабы партизанского движения. Это активизировало боевые действия народных мстителей, сделало более эффективной их помощь Красной Армии.

**Когда советские войска вели оборонительные бои у Сталинграда, Центральный штаб партизанского движения (ЦШПД) в специальном приказе от 1 августа 1942 года поставил задачу срывать перевозку резервов врага к линии фронта, полностью уничтожать вражеские эшелоны, активизировать действия партизанских отрядов в тылу врага.**

В конце августа — начале сентября в Кремле состоялось совещание командиров и комиссаров партизанских формирований Украины, Белоруссии, Орловской и Смоленской областей, которое подвело итоги партизанского движения, наметило пути его дальнейшего развития. Особое внимание было обращено на необходимость усиления координации действий партизан и Красной Армии. **Партизанское движение рассматривалось как один из важных факторов победы над врагом. «Разгром германских армий, — говорилось в приказе Наркома обороны от 5 сентября 1942 года, — может быть осуществлен только одновременными боевыми действиями Красной Армии и мощными, непрерывными ударами партизанских сил по врагу с тыла».**

Белорусские партизаны нарушали регулярность движения на железных дорогах Минск — Орша, Брест — Гомель, Минск — Бобруйск, Полоцк — Витебск и других. Только в ноябре 1942 года, согласно данным противника, народные мстители подорвали 254 эшелона, 11 железнодорожных мостов. К концу 1942 года партизаны пустили под откос 1 187 воинских эшелонов врага.

Нередко подрывники выполняли боевое задание ценой собственной жизни. Такой подвиг совершил бывший машинист водокачки станции Борисов Даниил Вереко в районе станции Крупки. Партизаны еще не успели установить мину, как со стороны Борисова стал приближался вражеский эшелон. Д. Вереко в последний момент бросился наперерез поезду и взорвал мину в руках.

Исключительно важными по своим результатам были операции по подрыву железнодорожных мостов. 4 августа 194[illegible] партизанская бригада «За Советскую Белоруссию» Витебской области взорвала двухпутный 110-метровый железнодорожный мост через реку Дриссу на дороге Полоцк — Даугавпилс. В результате операции движение поездов на этой важнейшей магистрали было прервано на 16 суток. Пропускная способность дороги снизилась с 60 до 8 эшелонов в сутки.

Значительный урон гитлеровцам нанесли партизаны Минской и Полесской областей, взорвавшие мост длиной более 150 метров через реку Птичь. Движение по магистрали Брест — Гомель было парализовано на 18 суток. 10 ноября 1942 года Главнокомандующий партизанскими силами К. Ворошилов и начальник ЦШПД П. Пономаренко поздравили партизан с успешным проведением операции.

Осенью 1942 года были подорваны также железнодорожные мосты через реку Нача на магистрали Минск — Орша, через реку Шоша на дороге Молодечно — Полоцк, через реки Талька и Синявка на дороге Минск — Гомель, 70-метровый мост через реку Лань на дороге Брест — Гомель и другие.

Нередко партизаны нападали на гарнизоны, охранявшие железнодорожные станции и мосты. В июле-августе были разгромлены гарнизоны на станциях Бычиха, Тимковичи, Язвино, Ловжа. Объединенными силами отрядов Могилевской области был разгромлен гарнизон на железнодорожной станции Славное. Движение на этом участке было задержано более чем на сутки.

Операции партизан по разгрому вражеских гарнизонов принимали все более широкие масштабы. Так, партизаны Россонского района систематическими налетами вынудили оккупантов в сентябре 1942 года оставить райцентры Освею и Россоны, а также Кохановичи и Клястицы, деревни Сивошино и Соколище. Партизаны блокировали гарнизоны в Ушачском районе, неоднократно нападали на гарнизон в самих Ушачах, в результате чего противник был вынужден оставить райцентр. 12 сентября пинские партизаны разгромили гарнизон в райцентре Ленин, освободив значительную территорию, [illegible]щую базой партизанского движения в области. В октябре 1942 года в результате взаимодействия белорусских и литовских партизан была создана освобожденная зона у озера Нарочь. Партизаны вынудили противника оставить райцентр Бегомль. Тесная связь и взаимопомощь установились в это время на юге Белоруссии между русскими, украинскими и белорусскими партизанами. Совместными усилиями они освободили от оккупантов обширную территорию.

**Зона контроля немецко-фашистских оккупантов в Белоруссии сокращалась с каждым днем. К началу 1943 года белорусские партизаны контролировали около 50 тысяч квадратных километров и прочно удерживали почти треть оккупированной территории республики. Образовались обширные партизанские зоны в тылу врага.**

Огромный ущерб оккупантам наносили подпольщики. Борьбу с захватчиками вели советские патриоты в Минске, Орше, Гомеле, Могилеве, Витебске, Бобруйске, Бресте, Полоцке и других городах и населенных пунктах Белоруссии. Они совершали диверсии, вели разведку в интересах Красной Армии и партизан. Подпольщики доставляли партизанам оружие, боеприпасы, радиоприемники, пишущие машинки, бумагу, регулярно передавали медикаменты, перевязочный материал, разведывательные данные.

О мужестве и стойкости минских подпольщиков свидетельствует письмо И. Козлова, который писал своим товарищам на волю 27 декабря 1942 года незадолго до казни: «Настоящий патриот тот, кто смело смотрит в глаза смерти. Не надо слез, не надо отчаяния. Наша кровь не прольется даром. Крепитесь, крепитесь, не бойтесь и не отчаивайтесь! Эх! Жить чертовски хочется! Мстить этим варварам — вот что нужно делать... Жить, жить! Вот как хочется! Да не прятаться за спины товарищей, а с оружием в руках в ежедневной борьбе с ненавистными шакалами — в этом вся прелесть и вся цель жизни».

Партизанская и подпольная борьба тесно переплеталась с патриотическими действиями сотен тысяч жителей Белоруссии, не входивших в партизанские отряды и подпольные организации, но вносивших свой вклад в борьбу с врагом.

**Контрнаступление и разгром немецко-фашистских войск под Сталинградом, начало массового изгнания гитлеровских оккупантов с советской земли вдохновляли их на новые подвиги, укрепляли уверенность в победе над врагом. С ноября 1942 года по апрель 1943 в Белоруссии возникло 176 новых отрядов, а число бойцов увеличилось на 28,5 тысячи человек. Партизанская армия в это время насчитывала в своих рядах 75 670 бойцов.**

Партизанское движение стало подлинно всенародным не только по своим целям и задачам, по участию в нем представителей всех классов и социальных слоев населения, но и по его масштабам, по охвату всей территории республики. Оно превратилось в могучую силу, способную оказать эффективную помощь Красной Армии в полном разгроме немецко-фашистских захватчиков.

**Эмма ЯЗЫКОВИЧ,**
**кандидат исторических наук.**

*ПИШУТ ЗЕМЛЯКИ*

# ТАКОЕ НЕ ЗАБЫВАЕТСЯ

Уже на протяжении многих лет в столице БССР, городе-герое Минске, для руководителей коллективов художественной самодеятельности прогрессивных организаций соотечественников за рубежом организовываются курсы повышения квалификации. Проводят их Белорусское общество «Радзіма» и Министерство культуры БССР. Осенью прошлого года и нам, трем членам Русского культурно-демократического союза в Финляндии (РКДС) из города Котка-Кархула, посчастливилось провести три недели на таких курсах.

Мы прилетели в Минск 14 сентября. Сразу в аэропорту нас встретил представитель Белорусского общества «Радзіма». Он отвез нас в одну из центральных гостиниц «Юбилейная», которая стала для нас гостеприимным домом на эти три недели. Уже за обедом мы перезнакомились с другими соотечественниками, приехавшими из Бельгии, Голландии, Италии, а один паренек даже из США. Некоторые участники прибыли позже. Всего нас, курсантов, было пятнадцать человек. Программа курсов началась прямо в первый вечер. Наша группа отправилась в прекрасный зал филармонии, где выступал очень известный в стране белорусский народный танцевальный коллектив «Хорошки». Задорные танцы, музыка, пение и, конечно, яркие национальные костюмы произвели на нас незабываемое впечатление. Мы все живо обсуждали этот концерт и завидовали мастерству исполнителей. А на следующее утро мы поехали на занятия в Республиканский институт повышения квалификации работников культуры. Там наша группа познакомилась с преподавателями и была разделена по классам — пения, народных танцев, игры на баяне и гитаре.

Занимались с нами самые опытные и талантливые педагоги, как, например, Валентина Китаева и Лариса Шиманович. За такой короткий срок они сумели многому нас научить. Мы изучили несколько новых красивых песен на белорусском и русском языках и исполняли их на три голоса. Некоторые из участников даже получили навыки дирижирования, другие исполняли сольные номера.

Программа занятий была очень обширной. Кроме уроков, мы прослушали множество лекций, которые сопровождались демонстрацией диа- и кинофильмов. Конечно, нам особенно интересно было увидеть и услышать народное искусство Белоруссии. И при каждой новой встрече с ним все буквально приходили в восторг. В музее мы видели красиво вышитые национальные костюмы, изделия из льна, дерева, лозы и соломы, керамику. Несколько раз нам удалось побывать в театрах. Смотрели героическую оперетту «Денис Давыдов», «Летучую мышь», слушали оперу «Севильский цирюльник», смотрели балет «Жизель», и конечно, были на представлении в цирке.

Познакомились мы и с профессиональными, и самодеятельными художественными коллективами, побывали на их репетициях и встречались с руководителями. Например, присутствовали на записи в радиостудии хора под управлением дирижера профессора Виктора Ровдо.

Нельзя не рассказать и о самом Минске, который по праву считается одним из красивейших городов Советского Союза. Здесь много музеев, современных микрорайонов, парков, скверов. Нам была предоставлена возможность посетить одну из средних школ и детский садик. Дети показали свои таланты — исполняли песни и танцы. Потом мы танцевали вместе с ними и пели песни о мире и дружбе.

Всем гостям минчане обязательно показывают два священных для них места. Это Курган Славы — памятник мужеству и героизму участников освобождения Белоруссии и мемориальный комплекс «Хатынь» — памятник непокоренному народу и вечная память о тех, кто отдал свои жизни в годы Великой Отечественной войны. Возвращались оттуда в город мы почти в полном молчании, настолько нас потрясло услышанное о зверствах, творимых фашистами на белорусской земле.

Совершили мы поездку и в город Брест, который находится на самой границе с Польшей. Там предстала перед нами овеянная славой Брестская крепость. Невозможно было слушать без слез объяснения гида о подвиге советских воинов. В Белоруссии люди часто вспоминают о войне, и, побывав в Хатыни и Бресте, мы поняли, почему. Этого нельзя забывать.

В последнюю неделю в Минске у нас было множество незабываемых встреч. Самая дорогая из них — встреча с белорусским живописцем, народным художником СССР Михаилом Савицким. Он принял нас в своей мастерской, где показал картины, некоторые еще не закончены. Мы очень признательны Михаилу Андреевичу за то, что смогли не только увидеть его картины, но и познакомиться с ним самим и посмотреть, как он работает.

В последний день перед отъездом у нас в классе был зачет, то есть мы показали все, чему научились за это время. Нам вручили удостоверения об окончании курсов. А вечером для всех был устроен большой праздник.

За все проведенное в чудесном городе Минске время, за все, что мы увидели и чему научились, за заботу о нас приносим нашу сердечную благодарность педагогам и Белорусскому обществу «Радзіма». Огромное спасибо!

Мы покинули Минск третьего октября, но воспоминания о нем не покинут нас никогда.

**Вера и Вяйне ХЬЕЛМ.**
**Пекка ЛАЙНЕ,**
Финляндия.

## ЁН ЛІЧЫЎСЯ ДУХОЎНЫМ БАЦЬКАМ УСІХ ПРАЦАЎНІКОЎ НАЦЫЯНАЛЬНАГА РУХУ

# «ХАЙ ЛЮД ПРАЧЫНАЕЦЦА...»

### ДА 120-ГОДДЗЯ КАРУСЯ КАГАНЦА

У гэтым радку з верша Каганца найлепшым чынам увасобіўся сэнс усяго жыцця, усёй творчасці аўтара.

Цяпер слова «каганец» беларусы не ўжываюць, яно забытае. Даўней жа ледзь не кожны жыхар мястэчка, вёскі, іншых паселішчаў у сваім штодзённым побыце шырока карыстаўся абыходнай рэччу пад такой назвай. Нічога дзіўнага: каганец—адна з найпрасцейшых прылад для асвятлення жытла — уяўляў сабою невялікую, напоўненую алеем пасудзінку з кнотам пасярэдзіне, адвеку спраўна і без заган служыў нашым землякам-продкам.

Выбар Казімірам Кастравіцкім сабе гэткага літаратурнага псеўданіма (як і другога — «Будзімір») зусім не выпадковы, бо ўсё сваё нядоўгае жыццё ён самаахвярна нёс прыгнечанаму беларускаму люду агонь Асветы, у канцы стагоддзя мінулага — пачатку новага будзіў, заклікаў свой народ да барацьбы з грамадскай крыўдай, з нацыянальным уціскам.

У розных рэспубліканскіх энцыклапедыях пасля гадоў Каганцовага жыцця гаворыцца: «Беларускі пісьменнік і мастак». Скупыя энцыклапедычныя звесткі можна дапоўніць аўтарытэтным і, трэба сказаць, справядлівым выказваннем краязнаўца і вучонага М. Каспяровіча, які напісаў пра Каганца: «Ён — самы яркі, самы палкі... светач той пары». А ў прадмове літаратуразнаўца С. Александровіча да збору твораў Казіміра Карлавіча чытаем: «Вядомы беларускі грамадскі дзеяч, драматург, паэт, празаік, вучоны-мовазнавец і фалькларыст, здольны мастак і скульптар».

Давайце разам пагартаем асноўныя старонкі жыцця Каруся Каганца...

Навакольныя памешчыкі і немаёмасная, шарачковая шляхта касавурыліся на дваранскую сям'ю Карла (ці па-беларуску Каруся) Кастравіцкага — бацькі паэта, якому належаў невялікі фальварак Навасёлкі пад Койданавам (зараз Дзяржынск). Гэта ж трэба! Замест паншчыны навасёлкаўскі гаспадар увёў прыгонным ва ўсіх сваіх шасці «хлопскіх» дварах толькі нязначны грашовы падатак — чынш. Да таго ж, ён — адукаваны агараном — наперакор мясцовым кансерватыўным традыцыям, што складваліся і ўсталёўваліся стагоддзямі, нястомна і паспяхова выкарыстоўваў найноўшую агратэхніку, пра якую тут раней нават не чулі. Увогуле, паводзіны суседа не ўхваляліся: баламуціць галовы падазронымі новаўвядзеннямі, ды такімі, што невядома, чым скончыцца. Праўда, уголас «шаноўнае панства» не выказвалася, ніхто не адважваўся нават паспрабаваць наставіць «Каруся з Навасёлак» на розум. Асцярожнічаць вымагала акалічнасць, якая на той час важыла надта многа: сенацкі дэпартамент Герольдыі яшчэ ў 1834 годзе сярод першых па Мінскай губерні без замінак зацвердзіў Кастравіцкіх у дваранскай годнасці, зацвердзіў не абыяк, а з радавым гербам Бейбуза. Ведалі суседзі, безумоўна, што шляхецкае прозвішча Кастравіцкіх (тут меліся людзі ўплывовыя, якія валодалі шэрагам населеных маёнткаў, на законных падставах адлічвае ўласную радаводную ад старадаўніх мсціслаўскіх баяр, вяльможных Бакуновічаў. Не з'яўлялася сакрэтам таксама, што маладая, добра адукаваная жонка гаспадара Навасёлак—з багатай сям'і стаўбцоўскіх паноў Свентаржэцкіх. Здавалася, будучым нашчадкам Кастравіцкіх гарантавана шчаслівае, бесклапотнае дзяцінства, за парогам якога — бясхмарнае, забяспечанае ўладкаваным дабрабытам жыццё. Але лёс вырашыў зусім інакш.

За ўдзел у паўстанні 1863 года Карла Кастравіцкага, пазбавіўшы нерухомай маёмасці і немалых дваранскіх прывілеяў, высылаюць у Сібір. У далёкае выгнанне разам з мужам добраахвотна паехала жонка.

10 лютага (новага стылю) 1868 года ў Табольску ў іх нарадзіўся сын. Неўзабаве Кастравіцкім дазволілі вярнуцца на радзіму. Часовы прытулак яны знаходзяць у вёсцы Засулле, што недалёка ад Стоўбцаў. Каб хоць неяк утрымаць сям'ю, бацька шукае сабе месца агранома, але раптоўна памірае, пакінуўшы жонку з сынам зусім без сродкаў. Ужо шасцігадовым хлопчыкам Казік мусіць наймацца пастушком спачатку ў Засуллі, затым у Юцках (Прымагілле, паблізу Койданава), куды пераехала ягоная маці пасля другога шлюбу. Пачатковую адукацыю хлопчык атрымлівае дома, паступае ў Мінскае гарадское вучылішча, а потым амаль чатыры гады займаецца, перабіваючыся з хлеба на квас, у Маскоўскім вучылішчы жывапісу, скульптуры і дойлідства. Кожнае лета Казі-



мір абавязі вяртаецца з Масквы ў Юцкі, каб зарабіць на зіму, хоць гэта было зусім нялёгка, зусім няпроста[1].

Яшчэ ў юнацкія і маладыя гады ў сэрцы Казіміра спеў і шырэў гнеўны пратэст супраць таго, што скрозь сустракалася ў царскай Расіі — турме народаў. Стыхійны пратэст, як і ранняе ўсведамленне ўласнай прыналежнасці да прыгнечанай беларускай нацыі, паступова падводзілі да цвёрдага пераканання ў неабходнасці барацьбы з самаўладдзем. Гэта знаходзіць выразнае адлюстраванне ўжо ў першых творах Каганца. Вось, напрыклад, з якімі натхнёнымі, гарачымі словамі звярнуўся ён да землякоў-беларусаў у вершы «Наш сымболь»[2], датаваным 1893 годам:

**Адважна, брацця, наперад ідзіце**
**Цвёрдай і правай ступою!**
**Кожнаму смела ў вочы глядзіце,**
**Праўду нясеце з сабою!**
**За родну краіну, звычай і мову,**
**За гонар груддзю ставайце!**
**Да будзьце верныя сваему слову,**
**За праўдай заўсёды трывайце!**

У 1896 годзе Казімір Карлавіч ажаніўся з Ганусяй Пракаповіч. Шлюб аказаўся ўдалым і шчаслівым, што, натуральна, садзейнічала творчасці. А друкавацца Каганец пачаў у прагрэсіўных газетах «Минский листок» і «Северо-Западный край». Вельмі адметна, што першыя апублікаваныя творы грунтаваліся на фальклорным матэрыяле. Ужо тады ён, паводле слоў таленавітага беларускага крытыка Сяргея Палуяна, быў «моцна праняты духам беларушчыны і Беларусі». Максім Багдановіч трохі пазней тонка адзначыў, што творы Каганца маюць «рэзка індывідуальную фізіяномію», што ад іх вее старадаўняй, дахрысціянскай Руссю.

«Дух Беларусі» не толькі прысутнічаў у творчасці Каганца, а і шматгранна ўвасабляўся ў living рознабаковай культурна-асветніцкай і палітычнай дзейнасці гэтага мэтанакіраванага і апантанага чалавека, пра якога Максім Гарэцкі напісаў: «Ён лічыўся духоўным бацькам усіх працаўнікоў беларускага руху».

У 1903 годзе мы бачым Каруся Каганца разам з паэтэсай-рэвалюцыянеркай Цёткай (Алаізай Пашкевіч) сярод стваральнікаў Беларускай сацыялістычнай грамады — палітычнай партыі леванародніцкага кірунку, якая выказвалася за незалежнасць Беларусі ў складзе федэратыўнай Расійскай рэспублікі, за шырокія буржуазна-дэмакратычныя пераўтварэнні. Працуючы ў 1904 — 1905 гадах у Мінскім дабрачынным таварыстве, Казімір Карлавіч заснаваў беларускі хор і аркестр народных інструментаў, прымаў актыўны ўдзел у арганізацыі мясцовых нелегальных гурткоў.

28 лістапада 1904 года Карусь Каганец звярнуўся да міністра ўнутраных спраў Расійскай імперыі князя Святаполк-Мірскага (беларуса па паходжанню) з хадайніцтвам дазволіць «выдаваць літаратурна-гаспадарчую газету на беларускай мове пад назвай «Палессе». Неабходнасць такой газеты абумоўліваецца тым, што «літвіны, палякі, яўрэі маюць свае кнігі і газеты, а чым жа беларусы горш за іх?» Гэта прашэнне, як і наступнае, накіраванае Казімірам Карлавічам у Пецярбург праз год, было, ужываючы бюракратычны канцылярызм таго часу, «пакінута без вынікаў». Абставіны данай справы дагэтуль застаюцца да канца не вывучанымі, але хутчэй за ўсё, што Беларуская сацыялістычная грамада праз аднаго са сваіх заснавальнікаў паспрабавала атрымаць легальную трыбуну для масавай ... тычнай агітацыі. Выдаўцом «Пал... я» павінен быў стаць Каганец, а рэдактарам — Дарафей Бохан, які здабыў ужо вядомасць самага, бадай, папулярнага тагачаснага мінскага журналіста.

Рэвалюцыйны 1905-т... Каганец праводзіць у гушчыні пад... Працуючы дзесятнікам у Лідзе на будаўніцтве чыгункі Балагое—Сядлец, ён часта бывае ў Мінску, па-ранейшаму падтрымлівае сувязі з віленскімі падпольнымі коламі. У канцы года за распаўсюджванне антыўрадавых пракламацый сярод сялян пад Койданавам яго арыштавалі, пяць месяцаў пратрымалі за кратамі мінскага Пішчалаўскага турэмнага замка — галоўнага астрога губерні. Суд адклалі на той падставе, што следчым быццам бы не хапае паказанняў сведкаў. На самай жа справе ўлады манеўравалі, ва ўмовах нарастання рэвалюцыйнага крызісу не асмельваліся ажыццяўляць тактыку паўсюдных шырокіх рэпрэсій. Пасля выхаду на волю Каганец нейкі час служыць ляснічым паблізу Клічава, наступнай зімой выкладае маляванне ў віленскай рамеснай школе, дзе арганізуе канспіратыўны гурток і шмат піша.

Якраз той парой ён стварае выдатныя сваёй глыбіннай праўдзівасцю радкі аб горкай долі беларускага народа:

**Люд наш кроўю хрышчаны,**
**У слязах бо купаны.**
**Бядою ён кормлены,**
**Горам ён напоены.**

А далей алегарычна гаворыць аб прызначэнні і месцы Паэта ў гарачы час рэвалюцыйнага пералому:

**У трубу зайграема —**
**Голас лесам пусціма,**
**Гукнем па балоту жа,**
**Каб усім было чутненька!**

Менавіта ў рэвалюцыйны перыяд і ў першыя паслярэвалюцыйныя гады Каганец працуе апантана, з вялікім натхненнем. Ён піша цыкл пранікнёных лірычных вершаў («Сонейка прыгрэла», «Салавейка мілы», «Жаваронча малы» і інш.). Крыху пазней з'яўляецца верш «Кабзар» (1910), які Максім Багдановіч слушна ацаніў «трыумфам пісьменніка», «рэччу самароднай, якая вее народным духам і пакідае моцнае ўражанне». Казімір Карлавіч ананімна выдае «Беларускі лемантар, або Першая навука чытання», перакладае на родную мову навукова-папулярную «Гутарку аб небе і зямлі», піша для дзяцей, афармляе вокладку «Другога чытання для дзяцей беларусаў» Я. Коласа (падручнік выйшаў у 1909 годзе ў Пецярбургу), выношвае сюжэт лепшага свайго драматычнага твора — бытавога вострасатырычнага вадэвіля «Модны шляхцюк» (першая пастаноўка ў 1910 годзе, з поспехам ставіўся аматарамі і акцёрамі-прафесіяналамі ва ўсіх беларускіх губернях).

За рэвалюцыйную агітацыю цэлы год (з чэрвеня 1910) прасядзеў Каганец у Мінскім турэмным замку. Адбываў пакаранне разам з Я. Коласам, пра якога ў адным з лістоў паведаміў: «...паэт, што пісаў у «Нашу ніву» і завецца Якуб, тутака». Нават у зняволенні Каганец працуе. У адной вестцы з турмы ён прызнаўся: «Маляваць я маляваў усё найбольш беларускія тыпы, ...2 малюнкі з турэмнага жыцця, а то нарысаваў 12 рысуначкаў Якубу Коласу да яго твораў».

Максім Багдановіч прысвяціў тады Каганцу верш:

**Змоўк пясняр, затаіў свае**
**шчырыя песні,**
**Ён іх болі ўжо не пяе.**
**Але рвуцца яны, і калісь**
**на прадвесьні**
**Лёд халодны ў душэ пад напорам іх**
**трэсне**
**І струёй лынуць вершы з яе.**
**Гэтак часам уходзіць у землю**
**крыніца,**
**Дзесь у нетрах таемна бяжыць,**
**Але мусіць урэшці на волю**
**прабіцца.**
**Шмат яшчэ па зямлі будзе**
**ліцца-каціцца**
**І радзімаму краю служыць.**

Пасля турмы Каганец доўга не мог знайсці службы: «палітычна нядобранадзейнаму» ўсюды адмаўлялі. Нарэшце, у 1912 годзе, пашчасціла заняць месца ляснічага ў фальварку Жортай на Барысаўшчыне. Карусь Каганец не любіў горада, адчуваў сябе ў роднай стыхіі выключна на сельскім прывольлі, бо толькі там яму лёгка марылася, плённа працавалася. Ён працягваў пісаць вершы, блізкія, як і раней, да пачутых ад навакольных сялян песень, збіраў і апрацоўваў фальклор, маляваў. А вось друкаваўся Каганец мала, хоць пачатак легальнай беларускай перыёдыцы быў пакладзены яшчэ з восені 1906 года (газеты «Наша доля», затым «Наша ніва»). І прычын таму мелася некалькі: ён настойваў на ўласным беларускім правапісе, адхіляючы нават магчымасць кампрамісаў па гэтым і іншых пытаннях з рэдакцыяй «Нашай нівы». Безумоўна, не апошнюю ролю адыгралі і ягоныя палітычныя перакананні, якія часта не адпавядалі поглядам кіраўніцтва гэтай газеты. Каганец, напрыклад, рэзка крытыкаваў буржуазных інтэлігентаў, што ўдзельнічалі ў беларускім вызваленчым руху з адзінай, як яму здавалася, мэтай прыдбаць і памножыць уласны палітычны капітал. Звяртаючыся да іх, абурана пісаў: «Вам і світка сялянская смярдзіць, і махорка ў носе круціць, і вы стараецеся ў чысцюткае месца забрацца, каб магчы аб «інтэлігенцкіх жэчах»[3] гутарку весці.

Але і тыя, каму часам даставалася ад Каганца, мусілі лічыцца з ім. Так, Вацлаў Ластоўскі (пісьменнік-публіцыст і гісторык пераважна нацыяналістычнага кірунку) аднаго разу адзначыў: «Другога такога знаўцы псіхікі і быту беларусаў, як Каганец, беларусы пакуль не маюць сярод сваёй інтэлігенцыі». Палымяная Каганцова любоў да ўсяго беларускага не мела нічога агульнага з нацыяналізмам, з нацыянальнай абмежаванасцю. Ці не аб гэтым яскрава і пераканаўча сведчаць наступныя радкі-заклік:

**На сваё, сынок,**
**Не цурайся жа,**
**І чужым ж ты**
**Навучайся жа.**

Памёр Каганец у маі 1918 у час нямецкай акупацыі Беларусі, пахаваны на сціплых сельскіх могілках вёскі Навасёлкі, што ў Дзяржынскім раёне Мінскай вобласці.

Калі ж гаварыць аб значэнні пісьменніка-дэмакрата Каруся Каганца ў беларускай нацыянальнай літаратуры, дык не будзе перабольшаннем адзначыць, што сярод яе заснавальнікаў ён з годнасцю працягваў вольналюбівыя традыцыі Багушэвіча і стаў яркім, самабытным папярэднікам вялікіх Купалы і Коласа.

**Мар'ян ВІЖ.**

[1]У спадчыну ад цёткі па маці Казімір Карлавіч атрымаў дзве валокі (40 дзесяцін, ці каля 43 гектараў) пусткі, якіх у арэнду не здаваў, мусіў араць зямлю сам, бо іншага сродку здабываць на жыццё па сутнасці не мелася: у дзяцінстве праз недагляд дарослых ён двойчы цяжка пакалечыўся, у выніку застаўся гарбуном. У той час гэта акалічнасць фактычна пазбаўляла мажлівасці атрымаць выкладчыцкую пасаду.

[2]Сымболь — сімвал, крэда.

[3]Жэч — рэч (паланізм): намёк на тое, што асобныя лідэры беларускага руху настроены прапольскі.

## НОВЫ ЧАСОПІС ДЛЯ МОЛАДЗІ

# З ДНЁМ НАРАДЖЭННЯ, «КРЫНІЦА»!

**Пачатак 1988 года ў нашай рэспубліцы азнаменаваўся значнай культурнай падзеяй — выхадам у свет новага часопіса «Крыніца». Першы, студзеньскі нумар, які з нецярплівасцю чакалі чытачы, хутка знік з кіёскаў. Новае выданне зацікавіла як маладзёжную аўдыторыю, так і людзей старэйшых. Наш карэспандэнт Таццяна АНТОНАВА сустрэлася з чытачамі часопіса і тымі, хто яго робіць. Яна расказвае, што збіраецца друкаваць «Крыніца», на каго арыентуецца, якія мэты і задачы ставіць перад сабой, а таксама знаёміць з меркаваннямі чытачоў, іх думкамі наконт характару і зместу часопіса.**




**Уладзімір НЯКЛЯЕЎ, галоўны рэдактар часопіса «Крыніца», лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола.**

— «Крыніца» нарадзілася ў цудоўны час, калі ў нашым грамадстве адбываюцца глыбінныя зрухі, калі ўсё коснае, руціннае выкідваецца за борт. Мяняецца сам чалавек, яго адносіны да грамадства. У такі амаль рэвалюцыйны час і лёгка, і адначасова даволі цяжка заваяваць папулярнасць у чытача. Гэта гледзячы, які выбраць кірунак. Прынцыпы нашы такія: не заігрываць з маладымі, але і не павучаць іх. Дарэчы, арыентуемся на самыя шырокія слаі: школьную, студэнцкую, рабочую, сельскую моладзь. А яны, як вядома, вельмі розныя.

Не будзем замоўчваць негатыўныя з'явы, якія існуюць у гэтым асяроддзі. Збіраемся друкаваць самыя супярэчлівыя матэрыялы па актуальных праблемах жыцця. Я шукаю і не знаходжу таго слова, якім можна было б вызначыць галоўную рысу часопіса. Можа быць, гэта слова «дарадца». Так, дарадца. Які выслухае цябе, дасць магчымасць выказаць свой погляд, думку.

Адна з галоўным функцый выдання — выхаваўчая. Мы ставім мэтай выхаванне свайго чытача ў грамадзянскім, сацыяльным, культурным планах. Таму на старонках часопіса будуць змешчаны артыкулы па гісторыі Беларусі, пра яе выдатных дзеячаў, нацыянальную спадчыну, а таксама і па праблемах развіцця сучаснай культуры. Зможаце прачытаць першыя празаічныя і паэтычныя вопыты пачынаючых аўтараў, фантастыку, дэтэктывы. Знойдзеце спорт, гумар, парады маладым гаспадыням, коміксы. Раскажам, як жывуць юнакі і дзяўчаты ў саюзных рэспубліках, за мяжой.

Дадам, што ў нашым часопісе будзе каляровая ўкладка. У першым нумары мы змясцілі на ёй рэкламу маладзёжнага рок-калектыву «Бонда».

Часопіс будзе выходзіць на дзвюх мовах. «Крыніца» — на беларускай, «Родник» — на рускай. Гэта прадыктавана існуючым у рэспубліцы двухмоўем.

Наогул задумы грандыёзныя. Мы будзем рабіць усё, каб дыскусійны клуб, які нарадзіўся на старонках часопіса, у перспектыве вырас у маладзёжны цэнтр, дзе з'явіцца магчымасць непасрэдных кантактаў з нашымі чытачамі.

**Аляксандр ТАРАНОВІЧ, мастак.**

— Я з задавальненнем узяў у рукі новы часопіс і прачытаў яго. Вельмі адчувальны, так сказаць, яго гарадскі, сталічны дух. Многа матэрыялаў пра сучасныя маладзёжныя праблемы. Думаю, што тэту накіраванасць — праблемнасць — трэба захаваць. Як мастак, звярнуў увагу на афармленне часопіса. Засмуцілі коміксы, нібы ўзятыя напракат з заходняй прэсы, малюнак да навелы М. Клімковіча, дзе героі—шляхціцы апрануты, як мушкецёры Людовіка XIV. Скажам, на каляровай укладцы з «Бондай» варта было б даць каляндар. А наогул трэба аднолькава ўважліва ставіцца і да зместу часопіса, і да яго афармлення.

Хацелася [illegible] найсці ў «Крыніцы» матэрыялы, як[illegible] раскажуць пра маладых паэтаў, мастакоў, артыстаў, пра пошук імі свайго ўласнага твару, свайго месца ў жыцці. Але каб гэта не былі глянцавыя опусы. Можа быць, на старонках часопіса ёс[illegible]энс праводзіць абмеркаванне той [illegible]ншай карціны маладога мастака, якая стала пэўнай з'явай.

На жаль, наша моладзь часам малаадукаваная ў эстэтычным плане. Гэтыя недахопы выхавання варта кампенсаваць мноствам матэрыялаў па гісторыі культуры, тэорыі мастацтва.

**Сяргей МІКЛАШЭЎСКІ, рабочы аўтамабільнага завода ў Жодзіне.**

— Першы нумар чытаў з цікавасцю. Вельмі патрэбны нам клуб знаёмстваў. Адна з праблем моладзі—адзінота. У мяне таксама мала сяброў. Наогул у нашым горадзе няма куды пайсці, акрамя бібліятэкі. У сталіцы свае культурныя запатрабаванні куды працей задаволіць. А ў правінцыі... Словам — праблема. І пра гэта неабходна пісаць, каб неяк вырашыць яе. Што і жадаю рабіць новаму маладзёжнаму часопісу, а не круціцца вакол рока і экзальтаваных паэтаў і празаікаў. Жадаю часопісу быць бліжэй да людзей і іх праблем.

**Станіслаў ЦЯРОХІН, супрацоўнік АН БССР.**

— Вітаю нараджэнне новага часопіса. Цікаўлюся ім, хаця даўно выйшаў з юнацкага ўзросту. Але бурчаць, гледзячы ў бок сённяшніх маладых, не маю звычкі. Яны такія, якімі мы, бацькі, і наша грамадства іх выхавалі. Гэта нашы дзеці.

Думаю, што па першым нумары цяжка меркаваць пра часопіс. Уласны твар набыць не так проста. Я нашу «Крыніцу» хацеў бы бачыць вострай, непрымірымай да пошласці, бездухоўнасці, мяшчанства, прапагандыстам добрага густу. Хачу адчуць пазіцыю выдання. Жадаю поспехаў яго рэдакцыі.

## СА СТАРОНАК «МАЛЫША»

Добрыя, сяброўскія сувязі мацуюцца з года ў год паміж беларускай і туркменскай літаратурамі. Сваю старонку ў гэтую справу ўпісаў і часопіс «Корпе» («Малыш»), які выходзіць у Ашхабадзе на рускай і туркменскай мовах.

Адзін з апошніх нумароў часопіса быў цалкам складзены з твораў беларускіх паэтаў і празаікаў. Са старонак «Малыша» гутарку з туркменскай дзятвой павялі героі апавяданняў, вершаў і казак Янкі Купалы і Якуба Коласа, Змітрака Бядулі і Еўдакіі Лось, Петруся Броўкі і Максіма Танка, Пімена Панчанкі і іншых беларускіх пісьменнікаў. Сярод перакладчыкаў іх твораў — Д. Бердыеў, Н. Рэджэпаў, А. Атабаеў.

**А. КАРЛЮКЕВІЧ.**

## ПРАМЫЯ СУВЯЗІ ТВОРЧЫХ КАЛЕКТЫВАЎ

# ТЭАТР — ГОСЦЬ ТЭАТРА

Тры дні гаспадарамі сцэны абласнога драматычнага тэатра ў Гродне былі польскія артысты. Госці з Беластока, якія прыязджалі на гастролі ў горад на Нёмане, паказалі гледачам на роднай мове спектакль «Крэслы» па п'есе румынскага пісьменніка Е. Іанеску. У гэтыя ж дні трупа гродзенскага тэатра выступала ў ваяводскім цэнтры Польскай Народнай Рэспублікі са спектаклем «Попел Алімпа» эстонскага драматурга Э. Ветэмаа.

Садружнасць двух калектываў пачалася чвэрць стагоддзя назад. А летась яна набыла новы змест: падпісаўшы дагавор, тэатры наладзілі паміж сабой прамыя сувязі. Тады ж жыхары Гродна і Беластока прагледзелі спектакль «Выбар» па матывах аднайменнага рамана Ю. Бондарава, у якім былі заняты акцёры абодвух тэатраў. Польскія майстры сцэны паказалі таксама п'есу свайго суайчынніка С. Мрожака «Другая страва», беларускія — спектакль «З новым годам!» М. Варфаламеева.

— На гэты раз мы далі пяць спектакляў,— сказаў у гутарцы з журналістам кіраўнік трупы Беластоцкага тэатра імя А. Венгеркі Анджэй Якімец.— Гледачы прынялі нас цёпла, як і мае землякі — гродзенцаў. Сёлета мы разлічваем пабываць у вас яшчэ тройчы. Столькі ж разоў павінны выступіць у нас і гродзенцы. Дагаворам прадугледжана сумесная пастаноўка спектакляў. Год назад гэта зрабіў у Беластоку галоўны рэжысёр гродзенскага тэатра І. Пятроўскі, які памог паставіць «Выбар» Ю. Бондарава. У сваю чаргу, цяпер мы паставім у Гродне што-небудзь з польскай класікі.

У рамках прыгранічнага супрацоўніцтва прамыя сувязі наладзілі таксама самадзейныя артысты двух рэгіёнаў: польскія ансамблі «Курпе зелёнэ», «Падляскія кукулкі», беларуская народныя калектывы «Нёман», «Свіцязь», «Раніца» і іншыя.

**К. БАЛАЦЕВІЧ.**

## ПРЭСТЫЖНЫ ЗАКАЗ ФІРМЫ «ШРАЙБЕР» ВЫКОНВАЕ МІНСКІ МАСТАК

# ДЫЯЛОГ І СУПРАЦОЎНІЦТВА

*Графік Уладзімір САВІЧ афарміў дзесяткі дзіцячых кніжак. Беларускія народныя казкі, вершы і апавяданні нашых пісьменнікаў з яго ілюстрацыямі чытаюць дзеці [illegible]ышчы, Індыі, Францыі. А нядаўна[illegible] Савіч вярнуўся з паездкі ў ФРГ і Швейцарыю (па лініі Усесаюзнага агенцтва па аўтарскіх правах (УААП) і Саюза мастакоў СССР), куды быў запрошаны выдавецтвам «Шрайбе[illegible]*

*Мастак расказвае [illegible] гэту паездку.*



— Спачатку некалькі слоў пра само выдавецтва. Яно заснавана ў 1931 годзе і носіць імя свайго заснавальніка — «Шрайбер». Выдае кнігі, якія ілюструюць мастакі ўсіх краін свету.

Пару гадоў назад Герхард Шрайбер прапанаваў мне афарміць серыю кніг з чатырох тамоў «Дзецям пра звяроў». Меркавалася паказаць жывёльны свет па рэгіёнах (першы том — лугі і вадаёмы, другі — сад і поле, трэці — лес, чацвёрты — горы). Два тамы гэтай серыі ўжо атрымалі чытачы, трэці падрыхтаваны, а над чацвёртым завяршаю работу.

Мая паездка насіла дзелавы, азнаямленчы характар. У выдавецтве я меў сустрэчу з мастацкім рэдактарам, мы карэкціравалі і дапрацоўвалі два апошнія тамы серыі. Я пазнаёміўся таксама з паліграфічнай базай выдавецтва, з яго супрацоўнікамі.

У горадзе Эслінгеме — пабраціме нашага Маладзечна мы, група савецкіх мастакоў (нас было трое), сустрэліся з вучнямі 11-12 класаў мясцовай школы, якія вывучаюць рускую мову. У час гутаркі падлеткі праявілі вялікую цікавасць да нашай краіны: пыталіся пра сістэму адукацыі, пра тыя змены, што адбываюцца ў Савецкім Саюзе ў сувязі з перабудовай. Завязаўся жывы дыялог. Вярнуўшыся дамоў у Мінск, я атрымаў лісты юных нямецкіх сяброў, у якіх яны пішуць пра сваё жыццё, мары і спадзяванні. Між іншым, яны збіраюцца неўзабаве пабываць у Беларусі.




У горадзе Штутгарце нас прымаў міністр культуры і адукацыі зямлі Бадэн-Вюртэмберг. Мы многа гутарылі аб праблемах выхавання сучаснай моладзі, аб ролі мастацтва ў жыцці чалавека.

У час майго знаходжання ў ФРГ у Франкфурце-на-Майне праходзіла традыцыйная Сусветная выстаўка-кірмаш кніг. На ёй мне пашанцавала пабываць. Прынамсі, тут была прадстаўлена і прадукцыя выдавецтва «Шрайбер», у тым ліку і нядаўна аформленыя мною кнігі. Я сустракаўся з мастакамі з розных краін, з выдаўцамі з Англіі, ЗША, ФРГ. Не палічыце за нясціпласць, але тры падрыхтаваныя кнігі серыі «Дзецям пра звяроў» зацікавілі англійскіх выдаўцоў.

Плённае супрацоўніцтва з выдавецтвам «Шрайбер»,спадзяюся, будзе працягвацца. Я маю папярэдняе пагадненне на афармленне кнігі «Хатнія жывёлы» для дзяцей малодшага ўзросту (4—5 гадоў).

**НА ЗДЫМКАХ: мастак У. САВІЧ; адзін з тамоў серыі «Дзецям пра звяроў», якая выходзіць у выдавецтве «Шрайбер».**

**Фота У. ШУБЫ.**







Кааператыўнае кафэ «Чабурэчная» ў Гомелі можна назваць маладзёжным. Яго наведвальнікі — у асноўным студэнты інстытутаў і тэхнікумаў. Іх прыцягвае сюды разнастайнае меню і адносна невысокія цэны на смачныя і апетытныя сняданкі, абеды, вячэры. Больш чым у два разы вырас тавараабарот кафэ з пераходам на новыя формы работы. У меню кафэ, як правіла, тры віды закусак, дзве першыя стравы і дзве-тры другіх, чай, кава, напіткі. Абавязковыя — чабурэкі. Усё гэта спрыяе таму, што «Чабурэчную» наведваюць многія гамяльчане.

НА ЗДЫМКУ: часта абедаюць у кафэ «Чабурэчная» студэнткі палітэхнікума Н. ФАМІЧОВА (злева) і Л. МАМАЧКІНА; у абедзеннай зале кафэ; смачна гатуюць стравы повары (злева направа) В. ДАНІЛЕНКА, В. ЦЯСЛЕНКА, К. ШКРАБАВА, С. ШЭДАВА.

Фота А. ТАЛОЧКІ.

*РОДНАЕ-БЛІЗКАЕ*

# ЛЕГКАЯ ЗІМА

У народзе ёсць вызначэнне: «лёгкая зіма», «мяккая зіма». Гэту нашу зіму можна называць лёгкай. Прабег студзень, а традыцыйных для гэтага часу маразоў так і не было, як няма і снежных сумётаў.

У такую зіму лягчэй людзям і асабліва лясным жыхарам.

— Заўтра нядзелька. Пойдзем праведаем наш бор,— прапаную суседу.

І вось ранкам крочым па свежай парошы, што ноччу, нібы белым абрусам, заслала дарогу і поле, легла на яліны і хваіны. Навокал спакой, не прабяжыць ветрык, не скалыхне галінкі. Ідзецца лёгка, за намі застаюцца ланцужкі ад слядоў.

Затрымаліся на ўзлеску і слухаем цішыню лесу, радуемся чароўнаму ранку, які так рэдка бывае зімою: не чуваць знаёмага гоману верхавін высокіх дрэў.

Нечакана цішыню парушылі галасы ганчакоў. Ях! Ях! Ях!—неслася з глыбіні бору.

— Там паляўнічыя,—кажа сябар.

Моўчкі ўглядаемся. І як у казцы, недалёка ад нас на сцяжынку выскачыў заяц. На белым некранутым снезе яго шэра-рудое футра зіхацела. Заяц узняўся, наставіў вушы. «Утаміўся небарака, адпачывае»,—думаю я і назіраю за яго паводзінамі.

Галасы сабак усё бліжэй і бліжэй. Калі яны былі зусім побач, заяц прысеў на заднія лапы і, як трэніраваны скакун, моцна адпіхнуўся ад зямлі, на некалькі метраў адляцеў за куст і знік

Праз хвіліну п[illegible]леду з голасам выбеглі д[illegible] сабакі. Панюхалі тое месца, дзе сядзеў заяц, скуголячы, пакружыліся і ўжо без голасу пабеглі назад.

— Удалося па[illegible]нуць,— парадаваліся мы.

Ідзём моўчкі, удыхаем лясны водар. Нашу сцяжынку перасёк ланцужок лісіных слядоў.

— Не сядзіцца хітрусе, мышкуе,—кажа сябар.

Недалёка ад нас па ціхім лесе пранеслася гучнае тук-тук-тук!.. Глянулі туды. На сухастоіне заўзята працаваў дзяцел.

— Дарэмна стараецца. Гэтае дрэва ўжо не вылечыш,—кажу.

— Для яго цяпер сняданак, а не дактарская справа,—супярэчыць сябар.

Не прайшлі па сцяжынцы і сотні метраў, як кінулася ў вочы: пад ялінаю густа рассыпана луска яловых шышак.

— Паснедала вавёрка і недзе бесклапотна адпачывае,—кажу жартуючы.

— Далёка не пойдзем. Пашукаем,—прапануе сябар. Узняўшы галовы, разышліся па лесе шукаць дупло, ці якога старога гнязда.

Праз некалькі хвілін сябар кліча. Іду да яго.

— Паглядзі вунь туды, — паказвае рукою.

Сапраўды ў леташнім гняздзе нейкае птушкі, што было высока на хваіне, ляжаў жоўты клубочак, прыкрыты густым пушыстым хвосцікам.

— Разбудзім?—пытаю.

Сябар адламаў сухую галіну і пастукаў ёю па дрэве. Вавёрка ўскочыла, прабегла ўверх, села на галіне і пазірае на нас.

«Хто парушыў мой сон?»—відаць, думала яна.

Пасля абеду мы вярталіся ў вёску. З шыферных стрэх нават ад скупога сонца капала...

Гэта быў яшчэ адзін дзень «лёгкае зімы».

Яўген КРАМКО.

## ПАПОЎНІЛАСЯ КАЛЕКЦЫЯ... УЗНАГАРОД

У канцы мінулага года ў Капенгагене праходзіла Сусветная філатэлістычная выстаўка «Хафнія-87».

Сярод пецярых удзельнікаў, якія прадстаўлялі ў Даніі філатэлістаў Савецкага Саюза, быў мінчанін Леў Коласаў, актыўны аўтар рубрыкі «У вашу калекцыю» ў нашай газеце. Яго збор «Пошта Савецкай Беларусі» атрымаў на выстаўцы «Хафнія-87» вялікі сярэбраны медаль.

Некалькі дзён назад гэта ўзнагарода папоўніла самую арыгінальную калекцыю Л. Коласава, у якую ўваходзяць медалі, атрыманыя мінчанінам на розных аглядах і выстаўках філатэліі.

## ВАС ШУКАЮЦЬ І ЧАКАЮЦЬ СВАЯКІ

Браты Завадскія Анатс[illegible] Казімір шукаюць ро[illegible]ю сястру **ЗАВАДСКУЮ ФЕНЮ ГЕОРГІЕЎНУ** (па бацьку можа быць запісана Юр'еўна) і яе дзяцей.



Нарадзілася ў 1928 годзе ў пасёлку Кладзішча Несецкага сельсавета (станцыя Несета) Клімавіцкага раёна Магілёўскай вобласці. У 1942 годзе была вывезена на прымусовыя работы ў Германію. Пасля вызвалення выйшла замуж за былога ваеннапалоннага Міхаіла Мельніка, выхадца з Беларусі. Прыблізна з 1945 па 1950 год сям'я пражывала ў Бельгіі. Нарадзіўся сын. Муж працаваў на шахце, з-за хваробы перайшоў на фабрыку. Потым Феню Завадскую спасцігла вялікае няшчасце. Памёр муж, а затым і сын. Пасля гэтага яна паехала ў Канаду, дзе пасялілася ў горадзе Калгары. Праз некаторы час другі раз выйшла замуж. У 1953 годзе нарадзіўся сын Сцяпан, а ў 1956-м — другі сын. Вядома таксама, што пазней яна развялася з мужам. У час пражывання ў Бельгіі сувязь з роднымі ў Беларусі падтрымлівала рэгулярна. А пасля пераезду ў Канаду доўгі час пісем не было. У 1956—1957 гадах сям'я Завадскіх зноў атрымала некалькі пісем ад Фені. Падпісвалася яна спачатку як Завадская, затым прозвішчам мужа — Хлус. Таму невядома, якое прозвішча яна можа мець зараз. У 1957 годзе сувязь родных з Феняй Завадскай зноў нечакана абарвалася. Яны спрабавалі пісаць па старому адрасу, але адказу не атрымалі.

Пераканаўчая просьба сваякоў да ўсіх, каму штонебудзь вядома аб лёсе Фені Завадскай і яе дзяцей, паведаміць у **рэдакцыю газеты «Голас Радзімы»** або брату па адрасу: **БССР, г. Мінск, вул. К. Лібкнехта, д. 86/2, кв. 49. Завадскаму Казіміру Георгіевічу.**

## ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ МАЛАДОЙ СЯМ'І

Як сервіраваць святочны стол, зрабіць прыгожай кватэру, развучыць з дзецьмі гульні і многае іншае падкажа тысячам жыхароў Беларусі «Энцыклапедыя маладой сям'і». У першыя дні новага года кніжныя магазіны рэспублікі выставілі на прылаўкі тоўстыя тамы, якія нядаўна выйшлі з друкарні. Гэты сюрпрыз падрыхтавала выдавецтва «Беларуская савецкая энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі.

Унікальнае выданне названа складальнікамі энцыклапедыяй, хаця прыдзірліва вока не знойдзе ў ім строгай алфавітнай паслядоўнасці артыкулаў, прывычнай сухасці выкладання, прынятых у падобных выданнях скарачэнняў. Затое надзвычай шырокае кола апісваемых тэм. Асобныя раздзелы расказваюць аб ролі сям'і ў савецкім грамадстве, прысвечаны біялагічным, медыцынскім, сацыяльным аспектам сямейнага жыцця, шчаслівай пары падрыхтоўкі да мацярынства і бацькоўства, праблемам гармоніі фізічнага, разумовага і псіхічнага развіцця дзіцяці, яго станаўлення як асобы ад нараджэння да школьнага ўзросту.

Работа над энцыклапедыяй (у краіне ў яе пакуль няма аналагаў) заняла ў аўтараў і выдаўцоў каля двух год — тэрмін для падобных выданняў зусім невялікі. А вынік — ля прылаўкаў магазінаў няма адбою ад жадаючых набыць энцыклапедыю. Зацікавіліся ёю і замежныя фірмы. Ужо заключаны дагаворы на адпраўку амаль у пятнаццаць краін 66 тысяч экземпляраў.

## У МУЗЕІ ЭКСПАНУЕЦЦА БАТЛЕЙКА

Сем першых батлеечных лялек — старая, анёл, ксёндз і іншыя—нядаўна апынуліся ў Смаргонскім краязнаўчым музеі. Зрабіў іх мастак-рэстаўратар рэспубліканскага музея атэізму і гісторыі ў Гродне Уладзімір Кіслы. Лялькі-ўзоры былі атрыманы з Масквы, з Цэнтральнага дзяржаўнага музея тэатра імя А. Бахрушына. Сам А. Бахрушын яшчэ да рэвалюцыі сабраў багатую калекцыю на Беларусі — каля 150 лялек батлейкі.

Апроч памяшкання, дзе будзе экспанавацца батлейка, адчыніцца невялікая глядзельная зала. У ёй змогуць выступаць лялечныя і батлеечныя трупы, ансамблі камернай музыкі. Мяркуецца набыць для музея разнастайныя батлейкі, каб магчыма было паказаць гісторыю яе шматвяковага развіцця. Народны майстар Пётра Гатоўка для тэатра-музея адмысловая пляце батлейку з саломы.

Адраджаецца ў нашы дні старадаўняе майстэрства беларускага народнага тэатра.

Сяргей АСТРАЎЦОЎ.



**НАШ АДРАС:**

МІНСК-ГСП, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Зак. 331